# Дняпроўская СТРОМА




№ 1 май 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕННЯ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ


САЮЗ АФІЦЫЙНА



## Красавіцкае папаўненне

12 красавіка адбылося чарговае паседжанне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Адбылося абмеркаванне творчасці кандыдатаў на ўступленне ў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў. У выніку тайнага галасавання рашэннем Рады шэрагі старэйшай творчай арганізацыі папоўнілі сем літаратараў.

Сярод іх: **АЎСЯННІКАВА Тамара Пятроўна**. Нарадзілася 24.05.1949 г. у в. Сяўкі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага Універсітэта. Працавала настаўніцай, бібліятэкаркай, інжынерам, метадыстам, загадчыкам крамы. Атрымала другую вышэйшую адукацыю эканаміста. Аўтар лекцый для настаўнікаў-філолагаў па тэорыі вершаскладання і аналізе паэтычных твораў, артыкулаў па творчасці Н. Гілевіча і Я. Янішчыц. Піша паэзію і прозу. Аўтар кніг вершаў «Ноты сэрца» (2009), «Лістапад гадоў» (2010), кнігі прозы «Любачка» (2011).



**БУЛАВАЦКІ Міхась Пятровіч.** Нарадзіўся 11.10.1947 г. у в. Восы Глускага раёнана Магілёўскай вобласці. Скончыў фізіка - матэматычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам.
З 1977 г. выступае як журналіст. У 1988 г. стаў адным з заснавальнікаў магілёўскай філіі аб'яднання “Мартыралог Беларусі”. З'яўляецца кіраўніком магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтру. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, піша вершы, перакладае з расійскай мовы. У 1999 г. выйшла кніга вершаў В.Высоцкага «Я не падману» ў перакладзе М. Булавацкага. Эсэ “Ноч свабоды” заняло прызавое месца ў літаратурным конкурсе “Мая свабода”, праведзеным радыё “Свабода”.



**УКРАІНКА Сяргей Сяргеевіч.** Нарадзіўся 25.01.1961 года ў в. Ніканавічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага Універсітэта, аспірантуру ў Магілёўскім дзяржаўным Універсітэце імя А.А.Куляшова. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры і журналістыкі ў МДУ імя А.А.Куляшова, будаўніком; цяпер працуе ахоўнікам.

Друкуецца з 1977 г., аўтар шматлікіх публікацый вершаў у перыёдыцы, зборніка паэзіі «Маё Купела» (2001 г.).

*(“Літаратурная Беларусь”)*

*Віншуем!*



# Наперадзе - праца

**Аднаўлена Магілёўскае аддзяленне ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

26 красавіка адбылося пасяджэнне Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". У парадку дня пасяджэння сталі два пытанні:
1. Аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення СБП;
2. Выбары старшыні аддзялення.

Праца пасяджэння пачалася з уручэння пісьменніцкіх пасведчанняў нядаўна прынятым у шэрагі СБП Тамары Аўсяннікавай, Міхасю Булавацкаму і Сяргею Украінку.

У абмеркаванні пытанняў ўзялі ўдзел Яраслаў Клімуць, Фелікс Шкірманкоў, Мікола Яцкоў, Міхась Булавацкі і іншыя.

Аднагалосна было прынята рашэнне аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. На пасаду старшыні Магілёўскага аддзялення абраны пісьменнік Мікола Яцкоў.

Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў на пасяджэнні прадстаўляў намеснік старшыні СБП Эдуард Акулін.



*Пасведчанне уручаецца Т.Аўсяннікавай...*



*Хвалюючы момант для М.Булавацкага...*



*С. Украінка не хавае сваёй радасці...*

АФІЦЫЙНА

**ПРАТАКОЛ №1**

*пасяджэння Магілёўскага аддзялення Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў»*

*ад 26.04.2012 г.*

Прысутнічалі: Мікола Яцкоў, Яраслаў Клімуць, Сяргей Украінка, Міхась Булавацкі, Фелікс Шкірманкоў, Алена Казлова (Анка Упала), Тамара Аўсяннікава.

ПАРАДАК ДНЯ:
1. Аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.
2. Выбары старшыні аддзялення.
3. Рознае.

Па першаму пытанню выступілі: Клімуць Я.І., які выказаў думку аб неабходнасці аднаўлення Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», тым больш, что зараз мы маем на гэта юрыдычнае права;

Булавацкі М. П., які адзначыў, што стварэнне аддзялення дасць нам магчымасць разгарнуць працу па ўмацаванню роднай мовы.

Шкірманкоў Ф.У., Украінка С.С., Акулін Э.А. выказаліся па пытаннях аднаўлення літаратурнага жыцця.

ПАСТАНАВІЛІ:

Аднавіць дзейнасць Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Галасавалі аднагалосна.

Па другому пытанню выступіў Акулін Э.А. Паступіла прапанова абраць старшынёй Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Міколу Яцкова.

Кандыдатуру Яцкова М.А. падтрымалі Аўсяннікава Т.П., Украінка С.С., Булавацкі М.П., Шкірманкоў Ф.У., Клімуць Я.І.

ПАСТАНАВІЛІ:

Абраць Яцкова Мікалая Адамавіча старшынёй Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Галасавалі аднагалосна.

Па трэцяму пытанню выступілі Яцкоў М.А., Булавацкі М.П., якія выказаліся аб выданні літаратурнага альманаха, аб наладжванні сувязей з выканаўчымі органамі ўлады, бібліятэкамі і грамадскімі арганізацыямі горада і вобласці.

*СТАРШЫНЯ ПАСЯДЖЭННЯ М.ЯЦКОЎ, САКРАТАР Т.АЎСЯННІКАВА.*



*Ідзе абмеркаванне галоўнага пытання...*





*У ветэранаў пісьменніцкага цэху Яраслава Клімуця ⇧ і Фелікса Шкірманкова ⇨ заўсёды слушныя заўвагі і парады...*

*Фота М.Яцкова і Э.Акуліна*

# НАША ГІСТОРЫЯ



## Іван АНОШКІН
## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

Неяк па радыё прагучала песня: «Прыдняпроўе маё, Прыдняпроўе, пералескі, крыніцы, лугі...». Так, так, песня на словы нашага магілёўскага паэта, цяпер ужо нябожчыка Васіля Матэвушава. І перад вачыма быццам паўсталі абшары, прасторы нашага Прыдняпроўя, апетай народнымі легендамі, апаленай полымем войнаў роднай Магілёўшчыны. Песня гучала, пераліваласл, як бы нагадваючы, што наша Магілёўшчына спрадвеку славіцца сваёй песеннасцю, напеўнасцю, дала нямала таленавітых песняроў, летапісцаў.

Прыгадаем хоць бы славутую «Баркалабаўскую хроніку» — бясцэнны гістарычны помнік XVI—XVII стагоддзяў, назва якога не выпадкова пайшла ад прыдняпроўскай вёскі Баркалабава — цяперашняга цэнтра калгаса імя Карла Лібкнехта ў Быхаўскім раёне. А ўзяць вядомую ўсяму свету ананімную паэму «Тарас на Парнасе». Вучоныя даследчыкі ўсё больш прыходзяць да згоды, што яна створана ў нас на Магілёўшчыне — у Горы-Горацкім сельскагаспадарчым вучылішчы (цяперашняя Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія) таленавітымі навучэнцамі ці выкладчыкамі.

Дарэвалюцыйныя выданні “Тараса на Парнасе”

З тэатральных рэпертуараў да гэтага часу не выпадае «Пінская шляхта». Прыемна, што аўтар гэтай класічнай беларускай п'есы Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — наш зямляк, нарадзіўся, вырас і нейкі час працаваў у фальварку Панюшкавічы, што каля Бабруйска.

В. Дунін-Марцінкевіч

А як не прыгадаць і нашых землякоў з ліку першых беларускіх пісьменнікаў Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага) і Альгерда Абуховіча, славутага этнографа, збіральніка народнай творчасці Паўла Шэйна і, вядома ж, Максіма Гарэцкага — сябра і паплечніка Янкі Купалы па славутай «Нашай ніве», дарэвалюцыйнай літаратурна-дэмакратычнай дзейнасці, выдатнага беларускага пісьменніка савецкага ўжо часу.

Ядвігін Ш.

А.Абуховіч

П. В. Шейнъ.

*(Працяг будзе)*

# Урок паэзіі і гармоніі

27 красавіка 2012 г. Магілёўскі абласны цэнтр творчасці зладзіў заняткі завочнай школы “Юны філолаг”. Урок, прысвечаны паэзіі, правялі літаратары Мікола Яцкоў і Алесь Казека. Вучні чыталі свае вершы, уважліва слухалі творы і меркаванні запрошаных гасцей.

Трэба адзначыць, што А.Казека і М.Яцкоў традыцыйна выступаюць разам, хоць і належаць да двух розных пісьменніцкіх саюзаў. Яны лічаць, што слова беларускае трэба несці людзям, неглядзячы ні на якія забабоны ды штучныя перашкоды.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ*



Алесь Казека (СПБ)



Мікола Яцкоў (СБП)



Вучням урок падабаецца...




# З Днём Перамогі!

Асаблівыя віншаванні ў гэты святы дзень мы дасылаем ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, сябру нашага Саюза, выдатнаму паэту і цудоўнаму чалавеку Феліксу Уладзіміравічу ШКІРМАНКОВУ. У пятнаццацігадовым узросце ён - баец знішчальнага батальёна. Пасля сканчэння спецыяльнай партызанскай школы перайшоў лінію фронту і змагаўся на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў брыгадзе Ф.С.Шляхтунова, якая з 1943 г. насіла імя генерала Л.М.Даватара. Двойчы быў паранены. У красавіку 1944 г.накіраваны Беларускім штабам партызанскага руху на вучобу ў Маскоўскае ваенна-інжынернае вучылішча. Пасля -- на 4-ым Украінскім фронце. Зноў быў паранены. Вайну закончыў пад Прагай камандзірам узвода інжынернай разведкі. Дэмабілізаваўся ў 1951 г., скончыў у Магадане курсы тэхнікаў-геолагаў, Маскоўскі горны інстытут, працаваў у геолагаразведвальных партыях, на распрацоўцы радовішчаў золата на Калыме, Чукотцы, Ахоцкім узбярэжжы. Пасля выхаду на пенсію вярнуўся ў родны Слаўгарад. Быў абраны дэпутатам і старшынёй Слаўгарадскага гарадскога Савета дэпутатаў.



Фелікс Шкірманкоў 1945 г.

Прапануем верш Ф.Шкірманкова з яго новай кнігі “Захоўваць вечна”.

# ЗАЗІРНУЦЬ У СЛОЎНІК

**СТРОМА**[1], -ы, *ж.* **1.** Круты схіл, абрыў. *На самай бязлеснай верасовай наддарожнай строме высілася на старасвецкім камені-пастаменце мускулістая, упартая і магутная фігура спалоханага лася — жыхара беларускіх лясоў.* Пташнікаў. [*Іван*] *толькі азіраўся на край стромы, дзе вось-вось павінны былі паказацца немцы.* Быкаў. *Няма на імшарах палескіх Скалістых аснежаных стром...* Аўрамчык.

**2.** Месца ў рацэ, дзе цячэнне асабліва імклівае. *Строма ракі блішчэла, як друз шкла.* Ваданосаў. *Згадалася Ганне, як калісьці школьная настаўніца вучыла плаваць яе, малую, бо яна ніяк не адважвалася плысці на строму.* Дубоўка. *Люблю лясоў зялёных гоман, Крыштальны звон тваіх крыніц, І плынных рэк віры і стромы, І сполахі начных зарніц.* Валасевіч. / *у перан. ужыв. Трапіўшы ў людскую строму, Краўчанка апынуўся ў канцэртнай зале.* Мікуліч. *Жанчына накіроўвала кіпучую строму рабочых слоў.* Чорны.

**СТРОМА**[2], *прысл.* **1.** Прама ўверх, перпендыкулярна. *Цёмнай стужкай дарога клалася ўзбоч лесу, выгіналася крукам на полі, потым строма паўзла ўгару.* Савіцкі. *Белыя кроны строма вырысоўваліся на фоне яшчэ не зусім сцямнелага неба, нагадвалі купал старажытнай вежы.* Дуброўскі. [*Вася*] *паставіў драбіны амаль строма, а збоку, каб лішне не ціснуць на дрэва, падпёр іх жардзінай з рагулькай на канцы.* Навуменка.

**2.** *перан.* Рэзка, рашуча. *Андрэй строма абарваў сваю гутарку і адвярнуўся ў акно.* Гартны.

# На вайне, як на вайне...

*На вайне, як на вайне,*
*Не усім шанцуе:*
*Каму ордэн, каму не,*
*Адна смерць балюе.*

*Нехта з ёй у першы дзень*
*Стрэўся нечакана.*
*Значыць, лёс яго такі,*
*Так наканавана.*

*А кагосьці пранясло*
*І не зачапіла.*
*Абышла тады салдата*
*Брацкая магіла.*

*Паўгадзіны артналёт*
*Нішчыў усё жывое,*
*Ад узвода ацалела*
*У тым пекле трое.*

*Тым, хто трапіў у медсанбат,*
*Бач, пашанцавала,*
*Бо вайна на нейкі час*
*Ім не пагражала.*

*Хто застаўся без нагі,*
*Быў удзячны Богу,*
*Бо ён гэтым заплаціў*
*У родны кут дарогу.*

*А на змену ім ішлі*
*Маршавыя роты,*
*І у смерці не было*
*Ні дня без работы.*

*На вайне, як на вайне,*
*Вольна смерць балюе:*
*Каму ордэн, каму не,*
*Не усім шанцуе...*



*“ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА”*
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *15.05.2012 г.. 21.00.*
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.